**Хто больш багаты?**

## ДЗЕ ЯК СТАВЯЦЦА ДА РАЗМЕРКАВАННЯ ПРАЦЫ І ВОЛЬНАГА ЧАСУ

Італьянец Джуліні кіруе трыма фабрыкамі па выпуску адзення, кантралюе штат з 300 чалавек і з'яўляецца лідэрам у нацыянальнай вытворчасці моднай прадукцыі. Амерыканскі адміністратар з падобнымі абавязкамі мусіць працаваць 60 гадзін на тыдзень, часта падчас уікендаў.

Але не Джуліні з міланскай фірмы. Ён прыбывае ў офіс у цывілізаваны час, у 9.30 раніцы і заканчвае работу не пазней, як 18.30. Джуліні абмяжоўвае сваю працу 5 днямі на тыдзень.

— Суботу і нядзеля? — пытаецца ён здзіўлена. — Ніколі не працую.

Вельмі няшмат амерыканцаў адмаўляюцца папрацаваць звыш нормы, калі за гэта больш плацяць. І тыя амерыканцы, хто стараецца будаваць камфортнае жыццё, ахвотна адпрацоўваюць лішак гадзін. І пагаджаюцца на кароткія вакацыі.

Аднак мільёны еўрапейцаў падзяляюць непрыхільнае стаўленне італьянца Джуліні. — Што да страты вольнага часу, нават калі гэта азначае абмінуць эканамічны бум, як той, які абагаціў амерыканцаў у апошняе дзесяцігоддзе. Штодзённы еўрапейскі абед у коле сям'і і кожнае лета месяц адпачынку на міжземным моры — склад і стыль жыцця, якія для еўрапейцаў з'яўляюцца занадта дарагімі, каб ахвяраваць дзеля ўзнагароды амерыканскага стылю-капіталізму. Я не думаю, што прамысловасць ад гэтага церпіць. Урэшце рэшт вы атрымоўваеце людзей, якія задаволеныя жыццём, шчаслівы ў такіх людзей падыход да працы.

Паводле даных сусветнага банка ЗША, ў 1997 годзе ў сярэднім мелі наступную лічбу валавага ўнутранага прадукту на душу насельніцтва — 29080 даляраў, найбагацейшая з еўрапейскіх эканомік была французская — сярэднім паказчыкам валавага ўнутранага прадукта на душу насельніцтва ў далярах —22210. Далей з меньшымі паказчыкамі ідуць Германія, Вялікабрытанія і Італія. Апошнія даследванні наводзяць на думку, як бы там ні было, што галоўная прычына ў такім высокім ўзроўні даходаў амерыканцаў дасягаецца больш інтэнсіўнай працай і працяглай працай. У сярэднім амерыканцы на працы праводзяць 1966 гадзін у год. Так падлічыла міжнародная арганізацыя працы. Аказалася, што амерыканцы працуюць на 235 гадзін болей за самых старанных еўрапейцаў — брытанцаў. На 310 гадзін, а гэта амаль 39 працоўных дзён, больш, чым французы. Больш за тое, Еўропа набліжаецца да Амерыкі па прадукцыйнасці працы і траціць на гэта менш часу. У Францыі бізнесноўцы спрабуюць абмежаваць працоўны тыдзень да 35 гадзін.

Амерыканец Керы Брус, дырэктар кампаніі, якая спецыялізуецца на мадуляванні віртуальнай рэальнасці, мае іншыя назіранні: ідэя, што еўрапейцы лёгка пакуюць рэчы і вяртаюцца да дому, больш міф, чым рэальнасць. Так гэта здараецца тут, але і ў Амерыцы таксама. Вынікае, што амерыканцы маюць больш аўтамабіляў і вілаў, але менш часу ўсім гэтым карыстаюцца. Такім чынам, хто больш багаты, памянёны італьянскі вытворца моднага адзення Віторыя Джуліні не мае сумніву: Еўропа. Жыццё больш якаснае. Але гэта не таму, што мы лепшыя за амерыканцаў, — гаворыць ён, —таму, што мы маем тысячагадовую культуру. І гэта бясцэнна.

**Вольга КАРАТКЕВІЧ.**

**Народны каляндар**

## *Лістапад*

Напэўна, ранейшая назва апошняга месяца больш адпавядала з'явам у прыродзе — старабеларуская яго назва была "грудзень" (зямля гэтай парой замярзае і ўтвараюцца груды). Калі гаварыць аб адпаведнасці сучаснага наймення, то "лістападам" варта было б назваць папярэдні месяц: якраз у кастрычніку цяпер аблятае лісце з дрэў. Відаць, у мінулым, калі ўтваралася назва, восень прыходзіла на Беларусь пазней.

Як звычайна ў гэтую пару, у народзе загадваюць, ці халоднае будзе надвор'е, назіраючы за станам прыроды, паводзінамі хатняй жывёлы. Неба пад ноч чыстае, але вакол месяца з'явіліся вялікія кругі, —будзе мароз, а калі кругі гэтыя чырванаватыя, магчыма, і снег пойдзе, ды яшчэ з ветрам. Месяц у бляклую смугу захутаны — на працяглую непагадзь.

Куры рана садзяцца на курасадню —маразы наступаюць, і чым вышэй нясушкі ўзбіраюцца, тым мацнейшы мароз ударыць. Калі нават у непагадзь дым з коміна ідзе вертыкальна ўверх — хутка надвор'е наладзіцца.

2. Задушны дзень. Дзяды.

4. Святкаванне абраза Казанскай Божай Маці. У гэты дзень варажылі на блізкую зіму: "Што Казанская пакажа, то ей зіма скажа".

8. Зміцер (Дзмітры). "Хітры" дзень, канец надзеі выйсці замуж у гэтым годзе. "Зміцер зямлю выцер, на груды пабіў, каб ніхто не хадзіў". У гэты дзень загадвалі на будучы Вялікдзень: калі на Змітра снег, то і на Вялікдзень снег, а вясна позняя.

10. Параскі (Параскева Пятніца). У гэты дзень забаранялася прасці, ткаць, выносіць попел: лічылася, што з падпечка вылезе Пятніца і пакарае.

11. Настасся (Настуся). Пачыналі стрыгчы авечак.

14. Кузьма-Дзям'ян. Свята шаўцоў, кавалёў; апекуны земляробства і вяселляў.

21. Міхал. (Міхайлаў дзень). Апошняе свята года; абронца ад грому. Варажылі на надвор'е: "Калі на Міхайлаў дзень сцісне мароз, то на Міколаў дзень адпусціць", "Калі Міхайла ў снягу — то і Вялікдзень у снягу", "Міхайла ў інеі прыйдзе — снежная зіма наступае, а калі туманам Міхайла спавіты — быць адлізе".

22. Матруна. Калі на Матруну шэрань на дрэвах — будуць маразы.

25. Іван Міласцівы. Калі ў гэты дзень дождж або снег — ажно да грамніц будуць адлігі. У гэты дзень лічылі належным з кім-небудзь падзяліцца тым, што маеш.

27. Юсцініян. Гэты святы лічыўся ў беларусаў збавіцелем ад бясплоднасці, пэўна, таму, што на абразах намаляваны з дзіцем на руках. У гэты ж дзень адзначаны Піліп, пярэдадзень Каляднага посту.

28. Піліпаўка (Калядны, Піліпаўскі пост). Ён працягваецца шэсць тыдняў (да 6 студзеня). У гэты дзень загадвалі на будучае надвор'е і ўраджай. Шэрань на дрэвах у гэты дзень абяцае ўраджай на хлеб. Калі на Піліпаўку надвор'е хмарнае або снежнае — май будзе мокры.

## МУЖСКОЕ ЗЛОСЛОВИЕ

Первая заповедь верующей жены-изменницы: возлюби ближнего своего.

**Филипп БУВАР**

Для большинства женщин любить одного мужчину означает обманывать другого.

**Этьен РЕЙ**

Вот уже два года, как я не разговариваю с женой. Чтобы не прерывать ее.

**Жюль Ренар**

**ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ. А КАМУ?**

## ГАРАСКОП ДЛЯ РЫБ НА МІНУЛЫ ТЫДЗЕНЬ (18-24 кастрычніка)

**"Могилевская правда": Такое только у нас!**

**Рыбам** придется трудновато. Противоречия возникнут из-за нежелания подстраивать свою своболюбивую натуру под окружающую действительность. Хотя в большей части это даже и полезно для вас. Коммерсантам и бизнесменам следует быть осторожными при ведении денежных счетов. Есть большая вероятность допустить крупную ошибку. В остальном дела окажутся не так уж и плохи.

**"Магілёўскія ведамасці"**

**Рыбы.** Хорошее для вас время. Прекрасное самочувствие, великолепное настроение. Ваш энтузиазм будет передаваться окружающим. Удадутся деловые контакты. И в романтических связях повезет. Правда, из-за рассеянности можете потерять кое-какие деньги. Поэтому будьте внимательны.

* * *

Вось такія пірагі! Выбірайце, Рыбы, любы прагноз: хочаце — з той, хочаце — з гэтай газеты. Які вам больш падабаецца. А хто складае гэтыя прагнозы, якія астролагі? Аднойчы я пацікавіўся ў рэдактара адной з магілёўскіх газет:

—Дзе вы бярэце для сваёй газеты астралагічныя прагнозы на наступны тыдзень? Ці мо вам які знаёмы астролаг складае?

Той усміхнуўся і кажа:

— Дзівак, мы, бярэм мінулагоднюю падшыўку якой-небудзь газеты і перапісваем адтуль прагноз на прыкладна адпаведны сёлетні тыдзень. А што? Усё роўна гэта лухта...

Так што, хочаце верце, хочаце не... у гараскопы на наступны тыдзень, што друкуюць магілёўскія газеты.

**В.АЛЯКСАНДРАЎ.**



**ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...**

## АДКУЛЬ ГЭТЫЯ ЯПОНЦЫ ЎСЁ ВЕДАЮЦЬ?

У Японіі апублікаваны ўнікальны каляндар прагнозаў. Да 2020 года многія з іх, лічаць у Краіне ўзыходзячага сонца, здзейсняцца. Звярніце ўвагу: да 2006 года будзе знойдзена лякарства ад СНІДу, а да 2007-га — ад рака, у 2009 годзе ў храмасомы людзей будуць уведзены чужыя гены, а ў морах і акіянах пабудуюць плавучыя гарады; да 2112 года чалавецтва асвоіць касмічны турызм, і, нарэшце, ў 2018 годзе стане рэальнасцю даўняя мара — прагрэс у медыцыне дасць магчымасць спыніць старасць. Няхай жыве будучыня!

— 2000-ы. Прагназіраванне напрамкаў ветру ў аэрапортах.

— 2001-ы. Трохмернае тэлебачанне будзе даступным без выкарыстання спецыяльных акуляраў.

— 2002-гі. Біялагічныя матэрыялы, здольныя затрымліваць ваду, напояць пустынныя вобласці.

— 2003-ці. Вулканічную магму пачнуць выкарыстоўваць як крыніцу энергіі.

— 2004-ы. Штучныя органы з сінтэтычных матэрыялаў будуць звычайнай справай. Будуць створаны штучныя лёгкія. Будаўнікоў заменяць робаты.

— 2005-ы. Вучоныя змогуць прагназіравць землятрусы. Паявіцца штучная кроў. Па генах і па голасе можна будзе ідэнтыфікаваць асобу.

— 2006-ы. Навучацца лячыць СНІД. Створаць небывалую абарону ад шуму.

— 2007-ы. Поспехі ў прадухіленні ракавых метастазаў. Лячэнне атэрасклерозу.

— 2008-ы. Выпуск камп'ютэраў на аснове дзейнасці тлушчавай клеткі. Ліквідацыя азонавай дзіркі часцінкамі, рассеянымі з самалёта.

— 2009-ы. Імплантацыя чужародных генаў у храмасомы чалавека. Вырошчванне раслін на неўрадлівых глебах і ў пустынях. Будаўніцтва плавучых гарадоў у морах і акіянах.

— 2010-ы. Самастварэнне камп'ютэрных тэкстаў.

— 2011-ы. Лячэнне хваробы Альцхаймера.

— 2012-ы. Спалучэнне жывых істот і камп'ютэраў. Касмічны турызм.

— 2013-ы. Лячэнне ўсіх відаў рака. Спыненне гібелі мазгавых клетак.

— 2015-ы. Будзе выведзена на арбіту населеная месяцавая станцыя.

— 2016-ы. Медыцына зможа зняць любы боль. Невыносных пакут больш не будзе.

—2017-ы. Будзе створаны штучны мозг з 10 тысяч клетак.

— 2018-ы. Ажыццявіцца палёт на Марс. Будзе спынены працэс старэння.

— 2019-ы. Вытворчасць штучных вачэй.

— 2020-ы. Лячэнне шызафрэніі.

**Са славацкага часопіса "Express". Зямля — касмічны палігон?**

Існуе першапачатковая настройка мозга кожнай індывідуальнай біялагічнай сутнасці — Чалавека. Гэта значыць, што з моманту стварэння кожны Чалавек знаходзіцца пад строгім кантролем і... кіраваннем.

Калі прыняць пад увагу ўсё вышэйсказанае, то можна канстатаваць, што ў аснове ўсіх казак, легенд і міфаў **УСІХ** народаў свету ляжыць **ІСЦІНА**. І ўсё, што мы ведаем аб мінатаўрах, сірэнах, кентаўрах, цыклопах, драконах, лесавіках і г.д., заснавана на праўдзе. Гэта ўсё бачылі **ЛЮДЗІ.** Але самі стварыць **ГЭТА** людзі не маглі.

Атрымліваецца, што Чалавек разводзіўся метадам кланіравання. Але калі мы ўстанавілі, што Чалавек — стварэнне, атрыманае метадам вырошчвання, яго мозг — кіруемая з космасу сістэма, яго лёс запраграміраваны.

Калі мы ўстанавілі, што зямны шар — планета, на якой вырашчана **ЎСЁ** жыццё, і яго знаходжанне на гэтай арбіце не ўзгадняецца з законамі фізікі; калі прыняць пад увагу такую "дробязь", як веды, то паўстае пытанне, адкуль 8,5 тысячы гадоў таму (час паяўлення пісьменнасці ў шумераў) **ЛЮДЗІ** маглі ведаць, што "вялікі год" — час, неабходны для поўнага абарачэння Сонечнай сістэмы вакол цэнтра нашай Галактыкі за 25.920 гадоў? Для таго, каб гэта ведаць, трэба было ўвесь гэты час назіраць за ім і рэгістраваць (без запісу?), прычым пад некатарым вуглом да плоскасці нашай Галактыкі.

Ну як можна было ўстанавіць працягласць зямнога года ў 365 дзён (з дакладнасцю да 4-га знака пасля коскі)?

Але каляндар быў створаны шумерамі, іўдзеямі, ацтэкамі; атрымліваецца, што гэтыя веды былі атрыманы ў гатовым выглядзе. Ад каго? Навошта?

Абагульніўшы прыведзеныя факты, можна прыйсці да высновы, што:

— Зямны шар — гэта спецыяльна створаны палігон для правядзення розных доследаў на генным узроўні, са 100-працэнтнай гарантыяй поўнай ізаляцыі ад іншых населеных планет.

— Чалавек — гэта штучна выдзелены біялагічны, кіруемы аб'ект.

— Рукавіком прагрэсу з'яўляюцца інспірыруемыя звонку войны і эпідэміі.

— Чалавецтва — тэатр марыянетак.

**Куток гаспадыні**

### МОРКОВНОЕ ПЕЧЕНЬЕ

*(500 г моркови, 1 ст. сахара, 2-3 желтка, 5-6 ст. ложек муки).*

Морковь тщательно почистить, натереть на мелкой терке, засыпать размолотым в кофемолке сахаром. Дать постоять 4-5 часов, пока масса не станет однородной. Добавить взбитые желтки, муку. Размешать. Добавить соду на кончине ножа, ванилин, цедру лимона, корицу, мёд. Небольшие шарики разместить на смазанном маслом листе, печь на среднем огне 10 минут.

### МАРМЕЛАД ИЗ ТЫКВЫ

*(1 кг очищенной тыквы и 0,5 кг сахара).*

Тыкву нарезать маленькими кубикамим, залить водой, чтобы покрыла тыкву, варить до испарения воды. Добавить сахар и варить до готовности. Разложить в банки в теплом виде.


### ВЫХАДНЫЯ ДАНЫЯ

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** 213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в.Маркаўка. Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 22-9-89, намесніка гал. рэд. — 22-00-9.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

Адказнасць за дакладнасць фактаў, падзей, прозвішчаў і іншай інфармацыі нясуць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 28 кастрычніка 1999 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Тыраж 2912 экз. Аб'ём І друк. аркуш. Заказ № 15.

**Галоўны рэдактар В.А. ДАЎГАЛЁЎ.**